# ДУБРОЎСКІ
# Н А С Т Р О Й №83

ЛІПЕНЬ 2005

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## ПАД ЗНАКАМ КАНІБАЛА.

Ад перамогі да перамогі, ад аднаго канвеернага 60-годдзя да другога жыве наша ўлада.

І здэцца гэтай вакханаліі афіцыйных сьвятаў і сьвяткаванняў няма канца.

Кшталту сатурналій выглядала апошняе сьвяткаванне апошняй перамогі.

Гваздом, прабоем, загваздкаю і шворнем праграмы былі партрэты Сталіна.

От гэта і ёсьць галоўны герой сьвяточнага шалу.

Пакінем у баку нікчэмнае блядаслоўе тэлебачання.

Дэманстрацыя прыхільнасьці да канібала-людажэра паказвае, з каго будзе браць узор і якімі метадамі будзе дзейнічаць тутэйшая каланіяльная ўлада.

У шарэнгах сьвяткавальнікаў і славільнікаў хапала спецкантынгенту дзеля выканання сьпецзадання-нашэння партрэта ідала Сталіна.

Ката і злачынца,стваральніка найвялікшага канцлагера ў сьвеце памерам з адну шостую частку зямной цьвердзі несьлі на руках як бажка.

Па ўсёй Беларусі ёсьць энтузіястычныя прыхільнікі гэнай гіены. «Сталіна трэба», ажыўляюцца дуброўскія мужыкі, якім гэтае страшнае імя вядома толькі з агіяграфічнай прапаганды. Напэўна, яны не ведаюць, што ў сталінскім канцлагеры зьнявоженыя жылі ў сярэднім ад двух да пяці тыдняў.

Як салдаты на фронце. Цёмныя людзі вераць баячкам пра Сталіна, быццам у яго не было ніякіх грошай. Нішчы, як і беларускі прэзідэнт. Сталінскія грошы ляжалі ў швейцарскіх банках, а не ў шуфлядах. Грошы, накрадзеныя ў мільёнаў ахвяр і аплочаныя дзесяткамі мільёнаў жыццяў.

Беларуская ўлада раўняецца на забойцаў і тыранаў.

І гэта вельмі гідка і небясьпечна.І гэта вельмі паганы прагноз будучыні для нашай любай Радзімы. На шчасьце, не ўсё залежыць ад Сатаны, правільней кажучы,ад яго нічога не залежыць. Маліцеся, каб Бог прыбраў помнікі Асмадзея Леніна і ягоных анцібалаў з Парыч і нашай старонкі, Беларусі. Маліцеся за гэнага неразумнага хлопца з-пад Шклова, бо апанаваў яго Люцыпар.

Беларусі відавочна пільна патрэбен моцны экзарцыст. (Найлепшы экзарцыст - Бог.)

## ХАЛЯВЫ НЕ АТРЫМАЛАСЯ.

Трэцяга ліпеня трэба было несьці вянкі да вайсковага ахавання ў цэнтры Дубровы.Гэта прамыя абавязкі ідэалагічнай вертыкалі, якая незаконна мае заробак з народнага буджэту. Дык гэтая вертыкаль у асобе Ніны Хведаравай так разбэсьцілася, што нават несьці вянок ленавалася і пашыбавала да дырэктара мясцовай школы, каб той даў настаўнікаў і вучняў. Але дзе тых настаўнікаў і вучняў вукалупаеш у час вакацый?

Таму давялося калгасным служкам ідэалогіі брацца самім за вянкі, занесьці іх і, такім чынам,хоць неяк апраўдаць сваю зарплату.

За такое сваё панскае жыццё ідэалагічныя работнікі не павінны з вайсковых могілак вылазіць і ўвесь час дбаць пра сьвежыя вянкі для палеглых. Дзе шчэ можна зарабляць на хлеб з паветра?

Радыё «СВАБОДА»-адзінае радыё на сьвеце, што спраўна шверкае па нашаму, па-беларуску.
06-08.00- 9635 кгц
18-20.00-15215 кгц.
Дзе самі слухаем, там і вам раім.

## НА ЎЗДЫМ ВЁСКІ-ТРЫ ПЭНДЗЛІКІ.

Тэма ўздыму вёскі- адна з улюбёных тэмаў каланіяльнага тэлебачання.

Рэгулярна-па меры знаходак- паказуюць паўсталыя прэзідэнцкім клопатам «аграгарадкі», заселеныя шчаснымі сялянамі.

Кожная рэч мае сама меней два бакі. Так і тут.

Калі нешта трэба падымаць, то, відаць, яно ляжыць . У нашым выпадку ляжыць беларуская вёска. Хто ж яе паклаў долу, калі не самі зьвяры-бальшавікі. Сьпярша яны адабралі ў сялян, у нашых дзядоў, прадмет працы, а потым загналі ўсіх у калхознае рабства. Расейскія каланізатары-бальшавікі высмакталі з нашай вёскі ўсё- і прыбавачны і неабходны прадукты і людзкія рэсурсы.Камуністы, гэтыя цапнёвыя чэрві, не выпускаюць з сваіх прысосак беларускую вёску. Зараз гэты аб”ект харчавання можа ператварыцца ў труп і разам зь ім загіне і паразіт. От і загарлапанілі пра «ўздым» вёскі.

Пакінем на час прапагандысцкі алеаграфічны тропаск. Каб вёска жыла, яна павінна сябе адраджаць праз маладое пакаленне, то бо празь дзяцей. Дзеці, як і грыбы, растуць пры пэўных умовах.

То перш чым гарлапаніць, трэбла пабачыць, колькі дзетароднага народу ійе па сёлах, колькі калхозныя рабы павінны нараджаць, каб канцлагер не сканаў.

Тыя гады мы прыводзілі дэмаграфію па нашым сельсавеце. Штогод памірала каля 40 чалавек і нараджалася каля 8.

Гэта выраджэнне, а не адраджэнне,гэта бездань. Ахайныя дамы і добрыя вуліцы-гэта файна.

Але для ўзнаўлення насельніцтва важныя і іньшыя чыннікі. І ці не з найважнейшых- медыцына і школа.

Пабачым, як уздымае дэспатычная дзяржава школу.

З дасьведчаных крыніц стала вядома, што ад дзяржавы сёлета дуброўская школа атрымала на рамонт тры пэндзлікі.

Усё астатняе-фарбы, шпалеры, клей ды іньшыя неабходныя рэчы былі купленыя школаю за грошы ,атрыманыя за здадзенае металічнае ламачча,(з гэтых грошай дзяржава не забылася ўзяць 16% падатку!), за невялікія ахвяраванні бацькоў і за настаўніцкія грошы рознага паходжання (невялікія прэміяльныя, эканомія заробкаў, ды іньшае). От і ўвесь клопат пра важную для кожнай сям”і ўстанову.

Папаўненне навучальным абсталяваннем таксама больш за сьціплае.

У кожнай школе кабінеты амаль не маюць новага абсталявання, старое ж ці зношана, ці разьбілася, паламалася, словам, яно не адпавядае часу.Таму націск на настаўнікаў, каб яны нешта рабілі ў кабінетах папросту бессэнсоўны: адукацыі патрэбны ладныя грошы.

Далей, дзяржава зусім не дбае пра тэарытычны грунт адукацыі, бо не праводзіць сацыялагічных і псіхалагічных дасьледванняў нашага грамадзтва і не узбройвае імі шкрабаў, то бо школьных работнікаў. От таму і існуюць непаразуменні між бацькамі і настаўнікамі, між дзецьмі і настаўнікамі.

Дзівіцца няма чаму- з трыма пэндзлікамі вясковую школу не ўздымеш. А што вёска без добрай школы?

## РАЗЬЛІЧВАЛІ НА ВЕЧНАСЬЦЬ, А АБХЭЗАЛІСЯ ПРАЗ 50 ГОД.

Людзям уласьціва памыляцца. Любімы нашым прэзідэнтам тысячагадовы рэйх вупрастаўся праз 12 год.

Сталінскія бандыты, украўшы сялянскую зямлю, тэрмінова заслупавалі яе для сябе сама меней на вечнасьць.(Дзейнічалі з размахам!)Менавіта сёлета ўлетку спаўняецца 70 гадоў з таго часу, калі дзяржава перадала крадзеную зямлю калгасам «навечна».То бо калгаснае рабства ў перспектыве мусіла доўжыцца бясконца.

Вечным бывае толькі патойбочнае жыццё. Ужо ў 90х гадох дзяржава адабрала «вечнае» карыстанне сабе, а потым быў прыняты закон аб прыватнай уласнасьці на зямлю.

Тым не менш, беларускі дыктатар палохае вяскоўцаў ,маўляў, з прыватнай уласнасьцю на зямлю зьявяцца памешчыкі-крывасмокі. Палохае казкамі стогадовай даўніны, забыўшы, што праз 5-10 год у вёсцы не будзе каму папалохацца.

Па-другое: ніводзін памешчык не выпіў столькі крыві з сялян, як камуністычныя калгасы.

Па-трэцяе, адраджэнне памешчыцкага класу немагчымае.Нават тэарытычна.

Чаму ж махае дыктатар ірваным рыззём мінуўшчыны? Па-першае, каб дурыць малаграматным людзям галовы, па-другое, па невуцтву. Па чыстаму невуцтву.

Вельмі ж хочацца пабыць тысячагадовым рэйхам.

Ну, хоць бы да канца жыцця.

## ЗАЖЫНКІ Ў ДУБРОВІ.

18 чысла ліпеня справілі зажынкі ў Дуброві.

Прыязджалі босы з «Гомельдрэўэнерга»- (Гомель, вул. Фрунзе, 9). Пасьля кароткай рытуальнай цырымоніі амфітрыёны і госьці скіраваліся для дазажынання на азярцо ля Язьвін.(Там любіў бавіць працоўны час з кабетамі нябожчык Коля Дашкоўскі.)

У такім парадку рэчаў няма нічога благога.

От толькі механізатары пакрыўдзіліся, што на іх начальства ў такі ўрачысты дзень не зьвярнула аніякай увагі.

Мужыкі,а прычым тут вы?!

Хто тут гаспадар? Чый тут ураджай? (Ваш толькі заробак.)

Пачытайце хоць бы Арыстоцеля, там ясна напісана пра месца і ролю рабоў у гаспадарцы.

Усё было добра.

А вось прэзідэнту Беларусі няма чаго рабіць, дык ён «мчыцца зьмеем ліхім», цівуном носіцца на белым шруба- (верта-)лёце па-над роднымі палеткамі, усё цікуе,ці ўсе мужыкі выгнаныя на палі, ці хто не заспаў, ці ахайна прыбіраецца аграгарадзкое збожжа. Проста некая маніякальная бітва за ўраджай. Бы Армагедон які!

Але пасьля зажынак будуць дажынкі. І як некалі казаў са скрухаю адзін баптысцкі прапаведнік «Ці ж хто прасіў Бога пра добры ўраджай? Ці ж хто дзякаваў Богу за добры ўраджай?»

Трохі шкада, што на Таго, хто дае той ураджай, забыліся ў «філіяле РУП Гомельдрэўэнерга Дуброва-Агра».

А самі ж калгасныя начальнікі на шашы так смачна цалавалі вандроўны крыж, што везьлі паўз Дуброву нейкія расейскія паломнікі-вандроўнікі.

Здараецца, што за крыжам і Бога не відаць. (Зь якога боку крыжа Яго расьпіналі?)

## БЕЛАРУСЫ-ПАДАЗРОНЫЯ.

Мо каму і падаецца залішне радыкальным, калі мы вызначаем тутэйшую ўладу як каланіяльны антыбеларускі рэжым, але гэта, як ні шкада, факт.

Вось яскравы прыклад.

Тыя з дзяўчат і хлопцаў, што навучаліся ў філіі Беларускага гуманітарнага ліцэю, а потым скончылі ВНУ зараз не могуць знайсьці працы ні па спецыяльнасьці ні наагул.

Па зьвестках, што павыцякалі з таямнічых органаў , існуе адмысловае распараджэнне не браць на працу былых выпускнікоў ліцэю ў дзяржаўныя ўстановы.

Гэта найчысьцюткай вады дыскрымінацыя паводле нацыянальнай прыкметы.

От гэта і служыць адным з тых індыкатараў, па якіх і можна меркаваць аб расісцкім абліччы рэжыму.

На Канстытуцыю ды законы ўжо можна не зважаць.

Падазраюцца ўсе.

## АБМІНУЛІ...

Пад час раздачы сена ў арцелі чамусьці абмінулі Сівалапаву Надзю.(Пра ейную бяду наш лісток паведамляў раней.)Калі ж жанчына пачала цікавіцца чаму ёй не далі сена разам з усімі калегамі, то начальства сказала «Атрымаеш увосень участак і пойдзеш касіць касою.»

Надзя, гэта не начальнікі табе не далі. Гэта рабская калхозная сістэма зьдзекуецца з цябе і з твайго жыцця. Дадуць табе сена, нідзе не дзенуцца. Але гідка ўсёроўна.

## НА ВАЙНЕ-
## ЯК НА ВАЙНЕ.

Галоўныкамандуючы бітваю за ўраджай загадаў ашчадна ставіцца да рэсурсаўі замест газу тапіць керзаю, то бо пырсою ці іначай апілкамі.

Цікава, сам ён лётае на апілках ці на карасіні? Колькі кіло апілак трэба ягонаму лятальнаму апарату, каб даляцець да Рудобелкі? Ці да Карпілаўкі?

Можна прапанаваць прэзідэнту ў якасьці транспартнага сродку памяло бабы-ягі.Яму і апілак не трэба.

Уяўляеце, што тварыцьмецца ў айчынным небі, калі начальнікі з «казлоў», «ніваў» ды «мерседэсаў» сядуць на памяло.

Сьвету белага няўбачым.

А няблага, каб селі, а ўвосень разам з гусямі ў вырай сіганулі. А прэзідэнт, як мае быць, папeрадзе. Ото палёгка была б народу!

А тым часам загадана пачаць будаваць новы ледзяны палац у Паставах. Відаць, нехта добра грэе рукі на гэтых спецзаказных будаваннях.

Багата цікавага можна пачуць і ад менскіх дуброўцаў, што працуюць на ўдарных прэзідэнтавых будоўлях. Сьмяюцца й абураюцца.

**ЮБІЛЕЙ**

**50** гадоў споўнілася ЦЯРЭШЧАНКУ АЛЯКСАНДРУ (ФІЗІКУ),нашаму прыязнаму сябру і чытачу.

Дзе б ні гараваў Аляксандр ён рабіў гэта з адмысловым імпэтам і зайздросным энтузіязмам.

Жадаем яму крэпкага здароўя,павышэння па службе і шмат падстаў для добрага настрою. Віват!

## БАРАЦЬБА НА ДВА БАКІ.

На два бакі змагаецца Лука, наш Лакаон, іхні Караджыч.Адна бойка-за нечуваны ўраджай, другая-з адвечна падазронымі палякамі.Справа ў тым, што палякі на Беларусі маюць крэпенькую арганізацыю пад патранажам Варшаўскага ўраду. От гэты патранаж і хоча пераняць у свае ручкі дыктатар усіх беларусаў. Для гэтага трэба мець сваіх козікаў і тозікаў у кіраўніцтве гэнага саюзу палякоў у Беларусі.

Цяпер зрабіць гэта проста, але не без скандалу. Сьпярша абвясьцілі несапраўдным чарговы зьезд саюзу, потым знайшлі шасьцёрак між палякаў і, нарэшце, сьмелым амапаўскім налётам занялі будынак сядзібы.

А па дарозе павыкідалі з дарогі журналістаў, каб усё было ціха.

Але, відаць, ціха не атрымаецца.

Не, няможа дэспатычны рэжым без ворагаў. Як іх німа, то трэба стварыць.

На лазьню ў Дуброві грошай нікс, а на барацьбу з беларускімі грамадзянамі польска-касьцельнага паходжання -ад пуза.

## ПАЦАЛУНАК КАМУНІСТА.

Дванаццатага чысла Лука прымаў нейкага украінскага камуніста і так цалаваўся зь ім, так ужэ цалаваў, так абдымаў, мо і матку родную так не шкадаваў.

Пазіраючы, як ліжуцца два мужыкі ўспомнілася, што ў 94 годзе Лука паведаміў, што прыпыніў сваё членства ў камуністых.

Пралукашысцкіх камуністых у Беларусі кот наплакаў. То хоць украінскага паліжа, на смак пакаштуе.

## ДВА ПРЭЗІДЭНТЫ- ДВА СЫНЫ.

Захлібаючыся ад радасьці беларускае каланіяльнае тэлебачанне паказувала, як прэзідэнт Украйны Віктар Юшчанка апраўдваўся перад народам за кепскія паводзіны свайго сына.

Журналісты высьветлілі, што ягоны сынок жыве не па сродках і паводзіць сябе неэтычна.(Такое бывае з дзеткамі царкоў.)

Па савецкай прывычцы Юшчанка быў рыкнуў на журналістаў, каб тыя заткнуліся і не лезьлі ў ягонае прыватнае жыццё.

Але Юшчанку нагадалі, што ў прэзідэнта няма прыватнага жыцця, а журналісты- не быдла, якое піша, што загадаюць.От і давялося Юшчанку, скамечыўшы пыху, тлумачыць сёе-тое народу.

Беларускае вублядкавае тэлебачанне радавалася «прыніжэнню» ненавіджонага Юшчанкі.

А нехер радавацца!

Зірнем на беларускі бок.

Ці могуць напісаць беларускія журналісты штосьці непрыемнае, але праўдзівае пра беларускага прэзідэнта? Могуць, але першы і апошні раз.

Бо за гэта ім немінуча наканавана кара. Па два гады хіміі атрымалі народныя журналісты Мікола Маркевіч і Павел Мажэйка «за абразу гонару і годнасьці прэзідэнта.» Два гады хіміі атрымаў за тое ж рэдактар газеты «Рабочы» Віктар Івашкевіч.

Мужыкоў пасадзілі ні за што, толькі таму, што яны спаўнялі свой прафесійны абавязак, напісалі праўду.

Мо ў нашага прэзідэнта сынкі лепшыя?

Гадоў мо пяць таму сын беларускага прэзідэнта Віктар у начным клубе пачаў страляць з пісталета і параніў хакейнага трэнера Мо газеты ўзьнялі шум? Мо Лукашэнка, рыдаючы, прасіўся з тэлевізара? Данежне!

Газеты, дрыжучы ад страху, набралі ў рот вады, трэнеру заплацілі і адправілі лячыцца. Словам, засыпалі ўсё пяском.

От вам дзьве мадэлі ўлады. Адна герметычна-дэспатычная -наша. Другая гаўняная таксама, але з грамадзянскай супольнасьцю, што ведае свой гонар і бароніць яго. Дык ці ж сьлед рагатаць беларускім тэлевізарным тупарылым прапагандыстам?

## НА СПРАВАЗДАЧУ У АЛТЫН-АРДУ.

На чарговую справаздачу ў Залатую Арду/Масковію лётаў наш дыктатар.Мо прасіў ярлык на наступны перыяд кіравання, клянучыся ў дружбе і іньшым.

Беларусь прыніжана зьяўляецца адзіным «надзейным» хаўрусьнікам Масквы. Чаму? Бо ўсе даўно бачаць, што Расея-гаўно. (Валавы Нутраны прадукт беднага Кітаю ўдвая большы за Расейскі.)Чаму Расея наш хаўрусьнік? Таму што там візантызм лепшы.

**НІЯКІХ ХАЎРУСАЎ З ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ РАСЕЯЙ!**

Пабраліся шлюбам ЦЯРЭШЧАНКА ТАНЯ і ТАЛМАЧОЎ ВАСІЛЬ. Шчасьця, кахання і дабрабыту маладой пары.

Пабраліся шлюбам ТУКАЧ ВІТАЛЬ і ПІШЧЫК НАТАЛЛЯ. Шчасьця, кахання і згоды маладым.

У страшнай аўтааварыі пад Жыткавічамі загінуў ШЧУР ВАСІЛЬ УЛАДЗІМЕРАЎ. Спачын ягонай душы.

Пайшоў ад нас добры сталяр, вясёлы жартаўнік БУСЕЛ ХВЕДАР НІЧЫПАРАЎ. Хай яму зямелька пухам.

Друкарня імя І. Масьціцкага
100 асобн. Як заўсёды.